Кошт паштовай перасылкі
аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 40.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Пэдпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 320000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 50.000 мк., сярод тэксту 40.000 м. і на 4 стр. 35.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 15. Вільня, Пятніца, 7-га сьнежня 1923 г. Год I.

## Апэтыты банкрутаў.

Хто перажыў гады нямецкае акупацыі вялізарных абшараў Польшчы, Літвы, Латвіі, Беларусі, Украіны, Каўказу (ня кажучы ўжо аб Бэльгіі і часьці Францыі)—абшараў, у некалькі разоў вялікшых за ўсю даваенную Нямеччыну, той, незалежна ад яго агульнага пагляду і сымпатыі, ці антыпатыі да немцаў, павінен быў шчыра дзівіцца *арганізацыйнай здольнасьці* нямецкага народу. Бо-ж, апрача заданьняў чыста ваеннага характару, акупанты былі прымушаны ўзяць у свае рукі і ўсю эканамічную гаспадарку акупаваных зямель, каб гэтак забясьпечыць сваім арміям магчымасьць пракармiцца, ды йшчэ каб вывязьці ў галодную Нямеччыну чым больш харчоў, дрэва, медзі і іншых патрэбных ёй матар'ялаў.

Арганізацыйная здольнасьць немцаў — бязспрэчная. Толькі тым і можна растлумачыць факт, што яны ў працягу некалькіх гадоў маглі ўдачна змагацца чуць-што ня з усенькім мілітарным сьветам. І, пэўне-ж, немцы *ведалі* аб гэтай сваей здольнасьці, *разьлічалі* на яе, калі пачыналі вайну.

Нам мімаволі ўспамінаецца ўсё гэта, чытаючы няўстанныя нараканьні польскае прэсы на польскую адміністрацыю на „крэсах“. Хаця абшару „крэсаў“ нельга й раўнаваць да тых бязьмежных прастораў, на якіх некалькі гадоў „гаспадарылі“ немцы, аднак, польская адміністрацыя банкрутуе тутака на кожным кроку. Ня гледзячы на тое, што „крэсы“ перапоўнены войскам і паліцыяй, што бадай няма такое вёскі ў прыгранічных паветах, дзе не сядзеў-бы агент дэфэнзывы, — імена тут працьвітае бандытызм, які быў магчымы толькі ў сярэднія вякі, калі ня было ні чыгунак, ні аўтамабіляў, ні тэлеграфу і тэлефонаў. Дарогі тут—непраездныя, масты—непераходныя. Па мястэчках няма дзе жыць. А школы—ну, аб іх лепш не гаварыць, бо зараз ўспамінаецца той „zarząd szkoły“, заяву катораға мы ў папярэдніх нумары перадрукавалі з „Robotnika“ ў аддзеле „Усячына“....

Усё гэта мы паўтараем за польскай прэсай, нават і эндэцкай. Не далей, як у аўторак, нейкі „новы Обст“ пісаў на гэту тэму ў „Dzien. Wil.“, гаворачы аб польскіх заданьнях на „Усходніх Землях“.

Ясная рэч, што пры такім палажэньні, пры такіх „адміністрацыйных здольнасьцях“ польскае чынавенства на Усходніх Землях ніколі ня здолее выпаўніць нацыяналістычныя пляны і задушыць тутака пачуцьцё абасобленасьці ад Польшчы—і нацыянальнае, і тэрыторыяльнае. Уся эндэцыя прызнае, што адным толькі *культурным* уплывам спольшчыць „крэсы“ нельга: каб зьнішчыць беларускую і украінскую культурную самастойнасьць, патрэбна, паводле слоў аднаго „крэсовага“ старасты-эндэка, „моцная рука“ ўлады. Але якраз пры гэнай „моцнай руцэ“ і стварыўся той абраз жыцьця „крэсаў“, які найбольш красамоўна сьведчыць аб банкруцтве ўсяе сучаснае польскае „крэсовае“ палітыкі, асабліва-ж аб банкруцтве адміністрацыі.

Ды ўсё гэта не пераконывае ашалеўшых ад прагавітасьці польскіх нацыяналістаў: пад той час, як польская „лявіца“ пачынае разумець, што абапертая на тых-жа нацыяналістычных падставах, толькі йшчэ горшая, бо аблыжная, палітыка п. Пілсудскага аказалася няздольнай умацаваць „адзінства“ ўваходзячых у склад Польшчы рознапляменных краін,—права-нацыяналістычныя колы польскага грамадзянства лятуцяць аб далейшым *павялічэньні* тэрыторыі Польскае дзяржавы, строяць пляны аб новых захватах.

Так, надовячы зьезд польскіх абшарнікаў у Вільні даволі празрыста выявіў свае апэтыты на Літву; там-жа асталіся польскія двары... Бадай адначасна з гэтым у „Gaz. Warsz.“ пачалі зьяўляцца абшырныя стацьці аб... „польскасьці“ Усходніх Прусаў! А пару гадоў таму назад, калі ген. Жэліговскі займаў Вільню, польскія нацыяналісты на ўвесь сьвет крычалі аб „польскасьці“ Латгаліі і жадалі, каб польскія войскі йшлі далей за Вільню—на Дзьвінск... Пачакаем крыху, дык пэўне за Усходнімі Прусамі чарод ізноў прыйдзе на Латвію, з якой *цяпер* ідзе „братаньне“.

Гледзячы на гэты ўзрост апэтытаў польскага нацыяналізму і на ўсё новыя доказы няздольнасьці Польшчы ня толькі „праглынуць“ беларусаў, украінцаў і другія „меншасьці“, але і прост „загаспадарыцца“ на іх землях, мы з поўным спакоем глядзім у нашу будучыну. Як за сто з лішкам гадоў ня здолела нас праглынуць магутная Расея, ня гледзячы на тое, што тады *ня было* ў беларусаў бадай *ніякага нацыянальнага руху, ніякае нацыянальнае сьвядомасьці ні культурнае працы*,—так не праглыне нас і Польшча, у якой трацину насяленьня складаюць „інародцы“,—не праглыне, *бо народ наш ужо збудзіўся*, ўжо пайшоў па дарозе тварэньня ня толькі самастойнае культуры, але і самастойных форм дзяржаўнага істнаваньня.

І хоць мо' йшчэ многа гора і бяды давядзецца нам спазнаць ад палітыкі „моцнае рукі“, хоць нашай культурнай працы стаўляюцца—на пагляд—непераможныя перашкоды, мы ня верым у памысныя вынікі гэнае палітыкі: *волі к жыцьцю* ў жывога народу нельга забіць ніякімі гвалтамі, ніякім фізычным націскам.

## Цікавы дакумэнт.

Намі атрыманы вельмі цікавы дакумэнт, які кідае сьвет на вядомую „Дзісенскую справу“, аб якой была кароткая заметка ў № 17 беларускай газэты „Наш Сьцяг. Друкуем гэты дакумэнт поўнасьцю ў перакладзе з польскага. Спадзяёмся, што судовае сьледства высьвятліць усю гэтую справу.

### Да Пана Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай.

Віктара Багданава, Сьледчага Судзьдзі III рэв. Дзісьненскага павету пры Акружным Судзе ў Вільні з сядзібай у м. Друі, цяпер-жа тымчасова ў м. Лужкі Дзісенскага пав., Віленскай зямлі.

### Скарга.

Чэсьць маю злажыць Пану, як Галаве Дзяржавы нашай Найясьнейшай Рэчыпаспалітай, гэтую скаргу аб службовых надужыцьцях ніжэй-памянёных ураднікаў, якія сваей дзейнасьцю супольна, сьвядома і зумысна (арт. 51 п. 3. К. К.) прычынілі мне неаблічальныя шкоды, бо ня толькі на маемасьці, але на здароўі і публічнай апініі, брудзячы мяне бязьвінна гразёю брудных паклёпаў.

1) Міністра Справядлівасьці Станіслава Навадворскага,

2) Дырэктара Дэпартаманту Мін. Справядл. п. Грэміньскага,

3) Пракурора Акружнага Суду ў Вільні п. Галоўню,

4) Доктара Юлія Сумарока, лекара на Віленскі павет,

5) Судзьдзю Рэстытута Сумарока, Прэзэса Апэляцыйнага Суду ў Вільні,

6) П. Орліцкага, Сьледчага Судзьдзю.

Праступныя чыны вышэйпамянёных ляжаць у тым:

29 чэрвеня пасьля звароту з одпуску я прыняў ад п. Закржэўскага сьледчыя рэвіры: мой III і яго I. Перадаючы мне рэвіры п. Закржэўскі зьвярнуў маю увагу на справу № 156/1923 г. аб службовых надужыцьцях з ч. XXXVII К К. заступніка старасты ў Дзісьне Манкевіча, Камэнданта Дз. Пал. падкамісара Ліходзееўскага, пшодоўніка Мотыля, пшодовн. Улінскага (5 f.), кіраўніка Інфармацыйнага аддзелу ў Глыбокім Гофрона, войта гміны Сьпірадовіча, ягонага заступніка Багуцкага, земляўласьнікаў: Мілашэвіча, Левікава, Патрыкоўскага (гміна Язна) і іншых. 7-га ліпня з вызначаных 9 сьведкаў зьявілася толькі 7; абвінавачаньне (паданьне пісаў адвакат Лявон Кулікоўскі) поўнасьцю падцьвердзілі, зазначаючы, што сьведка Шчэрбіцкі Базыль, з вёскі Шчэрбіцкія 2, тыдзень таму назад арыштаваны, пры гэтым вывядовец Улінскі, камэнд. Ліходзееўскі, катуючы яго ў арышце пры паліцыі ў Глыбокім, прымушалі да фальшывых паказаньняў, і гэта робіцца па намове і пры ўчасьці земляўласьніка Мілашэвіча, які матар'яльна зацікаўлены ў высяленьні Язэпа Грыневіча з двара Язна і, з гэтай мэтай, падкупіўМіравога Судзьдзю ў Дзісьне п. Бэргмана, дзеючы праз судов. абаронцу Русецкага, пры чым п. Бэргман, не зважаючы на добрую і рэчовую абарону адв. Кулікоўскага выдаў недарэчны прысуд аб высяленьні Язэпа Грыневіча з братамі з двара Язна. Прыгавор быў абвешчаны падлягаючым неадкладнаму выкананьню, ня гледзячы на пратэст п. Кулікоўскага, які заявіў, што прыгавор заскаржыць. (Акружны Суд у Вільні прыгавор адмяніў, загадаўшы высяліць ужо пасяліўшагася Мілашэвіча). Мілашэвіч, жадаючы перашкодзіць выканьню прыгавору, намовіў вывяд. Улінскага і іншых урадоўцаў, каб заарыштаваць братоў Грыневічаў і распачаць проціў іх справу аб дзяржаўнай здрадзе (арт. 108 і 119 К. К.). Пры гэтым Улінскі, Манкевіч, камэнд. Ліходзееўскі з войтам Сьпірадовічам і ягоным заступнікам Багуцкім пачалі чынную супольную дзейнасьць, бо п. Мілашэвічу справа йшла аб маёнтку ў 600 дзесяц. зямлі, і дзеля гэтага арыштавалі Захара Міхасевіча, а пры гэтым Манкевіч і Сьпірадовіч, робячы вобыск у памешканьні Міхасевіча ўкралі бранзалету з амэтыстам цаною 500 руб. золатам.

Трэба зазначыць, што Манкевіч і Улінскі ў значнай меры прычыніліся да масовых палітычных арыштаў; 10—13 сакавіка з адабрэньня п. Міністра Справядлівасьці Макоўскага было арыштавана 200 беларусаў (арт. 108 і 119 К. К.). Людзей, якія ня любячы Польшчы, але ненавідзячы жыдоўскіх камісараў Р. С. Ф. С. Р. рыхталіся да аружнага падтрыманьня Польшчы ў выпадку эвэнтуальнай вайны.

Уважнае сьледзтва гэтай справы, а таксама павядзеньне Манкевіча, Сьпірадовіча, Улінскага, Багуцкага і інш. пераканалі мяне, што гэта чэкісты, я устанавіў, што п. Манкевіч быў старшынёю чэкі ў Белазерску і Казані, і тады ўсё больш пачалі праглядаць у справе і выяўляцца азнакі з ч. IV арт. 108, 111 і 119 і інш. К. К. Віленская беларуская газэта „Наш Сьцяг“ зьмесьціла аб гэтым заметку „Панская Правакацыя“. Нумар гэты я пераслаў пры рапарце да Міністра Справ. (Аддзел. Асаб. Грэмінскі). Акружны Суд

8 жніўня газэту зачыніў а № гэты сканфіскаваў за абвешчаньне сакрэту пачатковага сьледзтва.

8 ліпня, аглядаючы становішча арыштаў у Глыбокім, я выявіў Базыля Шчэрбіцкага — сьведку службовых надужыцьцяў Манкевіча і Ко,—які у працягу 8 дзён трымаўся пад арыштам і быў катаваны праз тых-жа праступных урадоўцаў (Пратакол у справе). Таксама сьцьвердзіў, што другі сьведка Раманкевіч — пісар гміны Язна быў такім-жа спосабам даведзены да часовай умысловае хваробы — манія прасьледаваньня (арт. 469 К. К.). Умысловая хвароба Раманкевіча падцьверджана ў пратаколе судова-лекарскіх агледзін (Д-р Альфонс Крысінскі з Варшавы, саюз людоўцаў).

Я выдаў дэцызію арыштаваньня Манкевіча, Улінскага, Мілашэвіча, Патрыкоўскага, Ліхадзееўскага і інш., а пераканаўшыся ў слушнасьці закідаў проціў Бэргмана, зважаючы на дабро Рэчыпаспалітай, паставіў у папажэньне абвінавачанага гэтага гандляра прыгаворамі (Бэргмана) аб чым паведаміў прэзэса і пракурора Галоўню, дадаючы, што ў выпадку патрэбы арыштую гэтых профэсыянальных плюгавіцеляў судовых прыгавараў. Тады прыяцель арыштаванага Мілашэвіча п. Андрэй Анцэн, адміністратар маёнткаў граф. Зільбэрг-Плятэр арганізаваў абарону банды Мілашэвіча.

Зрабіў ён, г. ё А. Анцэн—спрытны і цёмны дзеяч—такім спосабам, што выкарыстаў маё грозьвішча Багданаў, нібы-то расейскае, угаварыў земляўласьніцам, што я манархіст, маскаль, які імкнецца да злучэньня Віленскай зямлі—старое Ягелёнскае дзялянкі—з будучай Усерасейскай манархіяй і сабраў пад дэпэшай гэткага зьместу да Прэзэса Суду ў Вільні іхныя подпісы, а таксама сабраў разам з Левіковым і Патрыковічам згодна з уложаным сьпісам да 100 мільёнаў мк., як узяткі для віленскіх саноўнікаў, а перадусім для п. Валерага Романа, пры гэтым п. Патрыкоўскі заплаціў па гэтаму сьпіску 5 мільёнаў мк., а Левікава ўгаварыў заплаціць 7 мільёнаў мк.

Пад уплывам гэтай дэпэшы і п. Валерага Романа, які выказаў вялікую энэргію і зацікаўленьне справай, 18 ліпня 1923 г. да м. Глыбокага прыехалі з Вільні п.п. Прэзэс Проневіч, Пракурор Галоўня і падпракурор Занеўскі, пры гэтым Галоўня ў прысутнасьці прэзэса, не захацеўшы прачытаць справы і разгледзець сьледчы матар'ял, у надта вострай форме заявіў мне, што я вёў справу дрэнна, што ня знаю службовай прагматыкі, выказваю вялікую жыцьцёвую бязтактнасьць і катэгарычна дамагаўся замены адносна абвінавачаных Манкевіча і яго супольнікаў прэвэнцыйнага арышту на дэклярацыю аб нявыезьдзе, але я адмовіўся ад гэтага, зазначаючы, што ў справе ёсьць азнакі дзяржаўнай здрады і шпіёнства, што выключае магчымасьць звальненьня арыштаваных. Спрэчка паміж мною і пракурорам трывала бяз пярэрвы ад гад. 16 да 20 г. 30 м. і, будучы вельмі змучаным і ня бачачы ніадкуль падтрыманьня, згадзіўся падпісаць дэцызію аб звальненьні Манкевіча і ягоных супольнікаў.

Калі а гадз. 24 зайшоўшы да казіно і ўбачыўшы трыумфуючыя міны ўрадоўцаў, якія лётам птушкі даведаліся аб перамозе пракурора над мною—я дэцызію аб звальненьні ўняважніў, аб чым 19-га ліпня паведаміў Прэзэса і Пракурора. Тады Галоўня ўнёс прапазыцыю аб маей умысловай хваробе, а Прэзэс склікаў даразную судова-лекарскую камісію ў гэткім складзе: 1) сам, як старшыня (трымаў пяро), 2) Яцына, міравы судзьдзя, 3) пракурор Галоўня, 4) падпракурор Занеўскі і два дактары: Савасьцян Рэйра — павятовы і Статкевіч — эпідэмічны, пры гэтым у часе досьледу мяне, чалавека, аб якім сам думаў, што зьяўляюся ўмыслова-хворым з упраўнасьцю маскоўскага чэкіста пазволіў сабе мучыць пытаньнямі паклёпнага зьместу, альбо зусім подлага, капаючыся ў выдуманай праз вывядоўцаў 5-кі вельмі трафна, урэшце ідучых сьледам царскай ахранкі, аб маёй здрадзе альбо прыватным жыцьці, хоць я ня ведаю ці пракурор мог сумленна паверыць гэтым байкам — столькі там было недарэчнасьці. У часе досьледу пракурор абвесьціў мне, што Манкевіча і Ко ён звольніў, а маю дэцызію ўхіліў. Я зараз-жа напісаў і перадаў п. прэзэсу Проневічу прапазыцыю суду, у якой даводзіў, што „środki zapobiegawcze“ можа зьмяніць у даным выпадку толькі сабраньне судзьдзяў Акр. Суду, дзеля таго, што (арт. 283 U.P.K. ня можа быць тлумачаны ў духу царскага сэнату, бо ў Расеі ня было сьледчых судзьдзяў з прычыны адсутнасьці канстытуцыі і г. д. і што ў гэтым выпадку трэба браць за прыклад прыгаворы судоў Францыі. Тады пракурор паміма пастановы дактароў, якія прызналі мяне за ўмыслова-здаровага, хворым-жа толькі на „Neurastenja—Cerebro—Spinalis-grawis“, выкліканую перапрацаваньнем, сам самавольна звольніў арыштаваных, хоць я і даказваў, што з прычыны азнакаў здрады і шпіёнства абвінавачаныя павінны сядзець да суду ў вастрозе.

Прэзэс перапрашаў мяне, што дапусьціў Галоўню зьдзекавацца нада мною, даў мне месячны отпуск і дапамогу ў 1.000.000 мк., а рэвіры загадаў здаць Сьлед. Судзьдзі II рэв. п. Ганчарэнка і зазначыў, што я буду дапрошаны ў трыбе арт. 443 U.P.K. праз Сьлед. Судзьдзю Орліцкага, які аднак дагэтуль мяне не дапрасіў і ў працягу 3 мес. наагул ня вёў сьледчай дзейнасьці, тым самым сумысна ўстрымліваючы справу. Прэзэс тлумачыў паводзеньне Галоўні ўплывам Дэлегата Ураду і хваробай. Пан Станіслаўскі, які жыве пры ул. Макатоўскай № 15, казаў мне, са слоў п. мэцэнаса Ледніцкага, быўшага амбасадора, што па яго думцы, п. Галоўня ўжо ў 1917 г. быў умыслова хворым. У той-жа дзень, г. ё. 19-га ліпня вечарам прэзэс выехаў да Вільні, а пракурор, падпрак. Занеўскі і сьлед. судзьдзя п. Ганчарэнка прыехалі да Лужкоў (маей сядзібы). У мяне тады была сэрцовая атака (пульс больш за 150), як комплікацыя досьледаў у Глыбокім. П. Ганчарэнка заявіў мне, што пракурор загадаў зараз-жа прыняць ад мяне рывіры а так-жа, што арыштаваных пракурор сам звольніў (нязгодна з правам). Я высьніў Ганчарэнцы, што я не магу сёньня здаць справаў, бо прэзэс даручыў нам дакладныя здачу і прыняцьце спраў, а пракурор зьяўляецца толькі ўраднікам пагляду і ня мае права даваць загады судзьдзям і радзіў калегу лічыць загады пракурора за нявыданыя.

Ня гледзячы на гэтае Ганчарэнка спакаваў акты і рэчовыя доказы у скрынкі і вывез іх а таксама сэкрэтара Тішаніна да м. Глыбокага, а Галоўня выехаў да Дзісны, пры гэтым пашыраў сярод паліцыянтаў і люднасьці заведама фальшывыя весткі, што Глыбоцкая камісія прызнала мяне вар'ятам, а паліцыі цыркулярна забараніў выпаўняць мае загады. Трэба дадаць, што перад гэтымі выпадкамі, а іменна 10-га ліпня 1923 г. я пасьля 9 месячн. паўненьня абавязкаў Сьл. Суд. 3 рэвіру—назначаны быў Сьлед. Судзьдзёю таго-ж рэвіру (Dz. Urzęd. M. Spr. I/IX L. 17 арт. 476), што аднак зусім не згаджалася з замерамі п-ра Галоўні, якому ў праступнай дзейнасьці дапамагаў камісар Ліхадзееўскі, які дзякуючы пракурорскай самаволі апынуўся на свабодзе і застаўся на пасадзе, ня гледзячы на тое, што проціў яго былі цяжкія закіды.

25-га ліпня я паехаў у Дзісну, бо конфідэнт NN паведаміў мяне, што ў гэтым дню на вокандзе Міравога Судзьдзі зьмешчана справа солтыса Шэршня, які ня выпаўніў сьпешнага майго загаду — даставіць параконную падводу. Я ведаў, што судзьдзя Бэргман так скіруе справу, каб мець магчымасьць абвінаваціць мяне ў надужыцьці ўлады. На судзе я даказаў вінаватасьць солтыса Ярашэвіча, (адносна Шэршня я адмовіўся ад абвінавачаньня) супольніка банды Мілашэвіча і Манкевіча, які сумысна ўтрудняў вядзеньне сьледзтва, а на гэтым судзе дапусьціўся фальшывай прысягі. Сьцьвердзіўшы пратакулярна вышэй паданыя факты (запісаны яны да пратаколу паседжаньня), я прасіў судзьдзю Бэргмана скіраваць справу Ярашэвіча, як абвінавачанага за фальшывую прысягу да сьледч. судзьдзі па прыналежнасьці. (Дагэтуль Ярашэвіч ёсьць солтысам, а Акр. Суд кошты гэтага выезду—2.000.000 мк. мне ня выплаціў і я маю страту. Рахункі і копію справы далучаю).

Пракурор Галоўня, імкнучыся, з мэтай прызнаць няважным маё сьледства ў справе № 156, да абвешчаньня мяне ўмыслова-хворым, нагаварыў д-ра Сумарока, каб выдаў фальшывае пасьведчаньне, што я небясьпечны для акружаючых хворы на вар'яцтва, а яго супольнік п. Рэсьцітут Сумарок—прэзэс Віленскага Апэляц. Суду—гвалцячы канстытуцыю (арт. 74—86) і арт. 1080 U.P.K., пасягнуў на маю свабоду, судзьдзёўскі імунітэт, упаважняючы пракурора замкнуць мяне ў доме вар'ятаў, што Галоўня і зрабіў, разаружаючы мяне і арыштовываючы ў гмаху Справядлівасьці, за пасрэдніцтвам д-ра Сумарока і двух санітараў, пры гэтым я не аказаў спраціву, а толькі прасіў сэкратара суду Кухцінскага паведаміць прэзэса аб гвалце нада мной і што я чакаю рашучых крокаў, каб зьвярнуць мне свабоду. Санітары прывялі мяне да Аддзелу ўмыслова-хворых шпіталя сьв. Якуба, дзе прыняў мяне фэльчар. Вечарам мая жонка Яніна-Мар'я, даўшы на піва сторажу, прышла да мяне і мы зрэдагавалі скаргу-тэлеграму да п. Міністра Справядлівасьці, а раніцай пры першым досьледзе д-р мэд. пані Кіборт прызнала мяне здаровым і звольніла. Дадаю, што таго-ж дня па загаду п. Галоўні да шпіталя сьв. Якуба быў прыведзены, як вар'ят стар. пшодовнік Дз. Пал. Мурашка і зараз-жа праз тую-ж пані Кіборт прызнаны здаровым і звольнены. Бяручы пад увагу прыведзеныя факты і апінію аб Галоўні мэцэнаса А. Ледніцкага, можна думаць, што п. Галоўня зрабіўся запраўды небясьпечным для акружаючых.

20-га жніўня я бачыўся з п. Міністрам Справядлівасьці Ст. Навадворскім, па папярэднім злажэньні рапарту-скаргі на прак. Галоўню і Сумарокаў (прэзэса і доктара) з арт. 51 п. 1 і 636 ч. III К.К., і ў часе паслуханьня, якое трывала блізка гадзіну, Міністар абяцаў надаць скарзе ўласьцівы трыб і прысьпешны ход, чаго не зрабіў і сам з намовы дырыктара дэпартамэнту Грэмінскага і Галоўні задняю датаю. а іменна: дня 10-га жніўня (Dz. Urzęd. L. 19 I/X г. г.) маю намінацыю ўзяў назад, робячы гэтым праступным чынам надужыцьце ўлады і ашуканства: арт. 51, п. 1, 440, 448, 636 ч. III К.К. Рашуча цьверджу, што п. Навадворскі да гэтай дзейнасьці ня меў прычынаў, бо я не магу прызнаць за повад да такога подлага паступку адносна да мяне маю службу Рэчыпаспалітай, якую я нёс—кажу як перад Панам Богам — шчыра і не ашчаджаючы свайго жыцьця. (2 замахі морфіям і адзін напад; пратакол аб нападзе інжэнера Ровінскага, які жыве ў Вільні, пры вул. Серакоўскага, знаходзіцца ў паліцыі).

Моцна веру, Пане Прэзыдэнт, што Пан зробіць усё, каб высьвятліць праўду, утворыць Соймавую Камісію, распазнае і разважыць забруджаную справу Усходніх Крэсаў—і задаволіць справядлівасьць.

(—) *Віктар Багданаў*

Сьледчы Судзьдзя III рэвіру Дзісенскага пав. пры Акружным Судзе ў Вільні.

м. Княжын, гм. Язна, пав. Дзісенскага, Віленскай зямлі.

У кастрычніку 1923 г.



# Ад канстытуцыі да паліцыі...

Артыкул 108 Польскай Канстытуцыі моцна і выразна абвяшчае:

„Грамадзяне маюць права коаліцыі, сабраньняў і арганізацыі таварыстваў і саюзаў...“

Але паціху дадае:

„... Выпаўненьне гэтых правоў вызначаюць (адпаведныя) законы“.

Кожнаму ясна, што гэты артыкул Канстытуцыі зьяўляецца чыстай, як кажуць, „дэклярацыяй“, чыстым „маральным духам“—бяз усякага „праўнага цела.“— Такая дэклярацыя ў канцы канцоў роўна нічога не дазваляе ані не забараняе, бо ў жывым рэальным грамадзянстве заўсёды знойдуцца элемэнты, якія скампрамітуюць гэтую неабмежаваную, абсалютную свабоду, выкарыстаўшы яе на шкоду грамадзянства (напр., — зладзеі...); знойдуцца і такія, што захочуць скарыстаць з надужыцьцяў першых, каб зусім спыніць гэтую волю грамадзян да ўсіх формаў аб'яднаньня.

І дзеля таго якраз і патрэбны — ў разьвіцьцё канстытуцыйных дэклярацыяў тыя ці іншыя „арганічныя законы“.

Вось аб гэтым і кажа кароткі дадатак да гэтага важнага 108 артыкулу Польскай Канстытуцыі.

Як ведама, Канстытуцыя Польскай Рэспублікі была „ухвалена“ Устаноўчым Соймам 17 сакавіка 1921 г. Многа працы і дэмакратычнага пераконаньня ўлажыла польская лявіца ў тварэньне гэтай Канстытуцыі. хаця, праўда, ня „зьдзейсьніла“ ў яе дэклярацыях усіх сваіх лятуценьняў.

Вельмі многа памагло стварэньню гэтай Канстытуцыі і тое, што правіца праз увесь час была *у ролі опозыцыі* яго вялічаству Яз. Пілсудскаму і „яго“ ўрадам і імкнулася, як мага, *абмяжаваць* наагул самаволю ўлады, якая мелася тады у „лявіцовым аспэкце“...

Але амаль ня ў кожным артыкуле Канстытуцыі, якія, як прыведзены вышэй, складаюць так званыя „канстытуцыйныя гарантыі“ правоў чалавека і грамадзяніна ў гаспадарстве, астаўлена была месца, у якое можна было ўлажыць тое ці іншае разуменьне межаў прадугледжанай гэтым артыкулам вольнасьці грамадзяніна, астаўлена была, *сьцежачка*, па якой, пры добрай волі, можна было *зайсьці* ў *тыл* тэй крэпасьці, якая бароніць гэтыя вольнасьці народу.

І вось вельмі цікава, што польская лявіца, стварыўшы разам з правіцай добрую Канстытуцыю, за два з лішнім гады *не знайшла часу* ў Уставадаўчым Сойме *правясьці амаль што ані воднага арганічнага закону* ў *разьвіцьцё і замацаваньне* дэклярацыяў гэтай Канстытуцыі...

І вось гэтую працу *стварэньня corpus'у конкрэтных законаў*, якія, як мы бачым, шмат важней— бо *рэальней абавязуюць*, як неўлавімы „дух“ Канстытуцыі—*лявіца і пакінула „на пасьля“*, фактычна аставіўшы яе цяперашняй „*правіцы*“ у вобразе Хьена-Пяста...

Што астаецца ад „духу“ Канстытуцыі ў гэтай „творчасьці“ Хьена-Пяста, найлепш сьведчыць тое, што „аўтарам“ і дакладчыкам абодвых унесеных у Сойм урадовых законапраектаў, прадугледжаных указаным арт. 108, зьяўляецца адзін з самых яскравых рэакцыянэраў і „душыцеляў“ у Польшчы пас. кс. Лютаслаўскі.

30/XI Канстытуц. камісія Соймуаканчальна прыняла праект *закону аб сабраньнях.*

Па гэтаму „закону Лютаслаўскага“ кожнае сабраньне можа быць забаронена *паліцэйскай уладай*, калі *апошняя прызнае*, што яно „пагражае бясьпечнасьці і парадку“...

Закон уводзіць у практыку сабраньняў вельмі важнага і адказнага сваей воляй і кішанёй *за ўсе прамовы і дзейнасьці* на іх „гаспадара“, які, па трафнаму азначэньню пасла з P.P.S. Лібэрмана, зьяўляцца запраўды „другім паліцыянтам“ на сабраньні...

Калі „гаспадар“ не зачыніць сабраньня, не дагледзеўшы ў прамовах „падбураньня“ да якогась праступнага чыну, дык гэта вельмі лёгка можа зрабіць камандыраваны на сабраньне прадстаўнік паліцыі.

Нават сабраньні *закрытыя*, на якіх усе маюць *іменныя запросіны*, а прадстаўнік паліцыі *ня мае права прысутнасьці*, кс. пасол Лютаслаўскі здалеў неяк падпарадкаваць тайнаму „*нагляду паліцыі*“, бо апошняя мае права зачыніць і гэткія сабраньні, калі толькі яна -- мо праз шпіка? пытаецца дасьціпна у „Роботніку“ пас. Чапінскі...—„сьцьвердзіць“ (дапраўды — як?!) на іх пагрозу публічнаму ладу, ці іншую небясьпеку...

Але найбольш характэрна для агульнага кірунку разьвіцьця сучаснай Польшчы — ліквідаваньня у ёй „духу“ Канстытуцыі, — зьяўляецца п. 20 закону, які выклікаў найбольш спорКаў у камісіі, бо запраўды зьяўляецца *зьнясеньнем апошняй крэпасьці, абараняючай народныя правы*,—бо гавора аб сабраньнях *пасольскіх*, якія дагэтуль карысталіся ўсё-ж такі значнай мерай свабоды.

Кс. Лютаслаўскі адкінуў усе папраўкі лявіцы, якія вельмі скромна, але ўсё-ж імкнуліся неяк выдзяліць пасольскія сабраньні з усіх іншых, маючы на ўвазе вялікую важнасьць абавязку пасольскай справаздачы і неабмежаванага права пасольскай крытыкі.

Але большасьць у камісіі правяліла ўсе папраўкі, прыняўшы, што *пасольскія мітынгі падпарадкуюцца ўсім тым правілам аб „двух гаспадарох“, „двух паліцыянтах“, як і сабраньні звычайныя...*

Гэта значыць, што „на точным аснаваньні Канстытуцыі“ *ўся посольская дзеяльнасьць народных прадстаўнікоў вонках Сойму пападзе ў поўную залежнасьць ад паліцыі п. Керніка...*

Мы ведаем, якое важнае значэньне маюць для ўсьведамленьня і падтрыманьня духу нашага народу тыя мітынгі, якія робяць нашыя паслы на вёсцы. Ве-

даем, як цяжка была і дагэтуль вясьці барацьбу з мясцовай паліцыяй за свабоду гэтых сабраньняў, як трудна і цяпер усьцерагчыся ад даносаў і перакручваньняў прамоў з боку тых „адзіных гаспадароў“, якімі на вёсцы зьяўляюцца прадстаўнікі паліцыі. Але ўсё-ж працаваць, спаўняючы свой пасольскі абавязак, дагэтуль яшчэ неяк было можна.—Цяпер *самі паслы* польскага парляманту з хьена-пяста *аддалі пасольскае слова*, пасольскія правы і абавязкі „на усмотреніе“ паліцыі, маючы да паліцыянта больш даверыя, чым да сваіх калегаў законадаўцаў...

За апошнія часы Польшча хуткім і рашучым тэмпам *ператварэецца* ў *клясычнае* *„паліцэйскае гаспадарства“*... Цэлы рад „крылатых слоў“, радзіўшыхся ў агню барацьбы ў Сойме, вельмі яскрава і сымвалічна сьведчыць аб гэтым...—„Rozbudowa Więziennictwa!“ крыкнуў пас. Рудзінскі аб буджэце п. п. Керніка—Кухарскага. І мы нядаўна бачылі ў нашай газэце, якая гэта ўсё праўда... „Wymordowanie parlamentaryzmu!“, крыкнуў пас. Барліцкі на гістарычным паседжаньні Сойму, *„выдаўшым“* сваіх сяброў, пазбавіўшым прадстаўнікоў народу іх пасольскай нятыкальнасьці...—І мы бачым у гэтым „лютаслаўскім законадаўстве“, на сколькі ў гэтым—праўда!..

„Kierniczyzna“!—добра акрэсьліў новым словам гэтае зьявішча ў сучаснай Польшчы пас. Путэк — і тую „паліцэйскую ролю“, якую ўзялі на сябе, прадаўшы сваю *палітычную ролю* Хьене — „людоўцы“ Пяста...

А што значыць і да чаго вядзе „паліцэйскае ператварэньне“ гаспадарства, аб гэты варта пагутарыць асобна...

**С.**

# Нямецкі фашызм.

Габінэтны крызіс у Нямеччыне закончыўся ўтварэньнем габінэту Маркса, які нічагусенька ня мае супольнага з тварцом навуковага сацыялізму Карусём Марксам. Новы габінэт апіраецца на парлямэнцкую буржуазную меншасьць і трымацца ў улады можа толькі пры падтрыманьні сацыялістаў, альбо крайніх нацыяналістаў, якія не ўваходзяць у склад габінэту. Наагул, склад новага нямецкага ўраду зьяўляецца больш рэакцыйным, чым нават папярэдні габінэт Штрэзэмана і трудна спадзявацца, што знойдзе падтрыманьне ў нямецкіх сацыял-дэмакратаў, ня гледзячы на тое, што яны так ахвотна, баючыся запраўднага рэвалюцыйнага руху, давалі гэтае падтрыманьне ўсім папярэднім буржуазным урадам. Застаецца адно — гэта супрацоўніцтва з крайнімі правымі — фашыстаўска-манархічнымі партыямі, да якіх па духу габінэт Маркса бліжэй, чым габінэт Штрэзэмана.

Такім чынам рэакцыя ў Нямеччыне афіцыяльна зьяўляецца ў сучасны мамэнт, як быццам, пераможцам і не пашкодзіць бліжэй прыглядзецца да яе і тых сацыяльных масаў, на якія яна апіраецца.

Нямецкі фашызм з боку сацыяльнага шмат чым розьніцца ад свайго прататыпу італьянскага фашызму. Італьянскі фашызм зьяўляецца чыста-буржуазным рухам. Гэта ёсьць рух паваеннай рэакцыйнай буржуазіі, якая адкінула фігавыя лісткі дэмакратызму. стаптала парлямэнтарызм, узышла на шлях клясовай дыктатуры, дзеля таго, што ў паваенныя часы развалу капіталістычнага арганізму толькі такім шляхам яна магла адбудаваць гэты арганізм і ўтрымаць ў сваіх руках уладу. Італьянская буржуазія сьвядома імкнецца да гэтых мэтаў і стаіць на чале ўсей рэакцыі, не паніжаючыся перад арыстакратыяй і абшарніцтвам, наадварот нават часам італьянскія фашысты становяцца на старане сельска-гаспадарчых работнікаў, падтрымліваючы іхныя дамаганьні і прымушаючы абшарнікаў ісьці на ўступкі. Італьянскі фашызм сьведчыць, што буржуазія зьяўляецца ўжо настолькі аджыўшай клясай, што бяз тэрору ўтрымаць уладу ў сваіх руках ўжо ня здольна.

Іначай выглядае нямецкі фашызм, які зьяўляецца выразьнікам юнкерскай (абшарніцкай) клясы, якая ўжо настолькі аджыла, што ня здолае ўтрымацца нават тэрорам. Перад тымі страшнымі заданьнямі, якія стаяць перад нямецкім народам, нямецкі фашызм зьяўляецца бязьсільным і ня мае ніякай новай праграмы, а аглядаецца назад да шчасьлівых часоў кайзэра Вільгельма.

Чаму гэта так пастараемся растлумачыць у кароткіх словах.

Пруска-нямецкая імпэрыя Гогэнцолернаў была пераважна з палітычнага боку выразьнікам інтарэсаў юнкерскай клясы, якая фактычна мела ўладу і займала ўсе вышэйшыя пасады ў дзяржаве. Запраўднага дэмакратызму ў даваеннай Нямеччыне ня было. Ня гледзячы на бліскучае разьвіцьцё нямецкай прамысловасьці і гандлю, якія дагналі, а нават папярэдзілі стара-буржуазныя краі, краі запраўднага буржуазнага дэмакратызму, як Францыя, Англія і нават Амэрыка, нямецкая буржуазная кляса ня мела фактычна улады ў сваіх руках і росквіт яе адбываўся пад апекай манархічнага юнкерства; навачаснае чыста-капіталістычнае жыцьцё улівалася ў адсталыя, напалову фэодальныя палітычныя і сацыяльныя формы. Цяжкая нямецкая прамысловасьць разьвівалася, дзякуючы імпэрыялістычнай і мілітарнай палітыцы Гогэнцолернаўскай манархіі. Пры гэтым трэба азначыць яшчэ адну супярэчнасьць даваеннай Нямеччыны, гэта моцнае разьвіцьцё законадаўства аб ахароне працы; гэта былі ўступкі для пралетарыята, якія рабіліся пануючай юнкерскай клясай, можа са шкодаю для буржуазіі, каб не стварыць нездавольства, небясьпечнага для самога юнкерства, шырокіх работніцкіх слаёў.

Такім чынам мы бачым разьвіцьцё ў Нямеччыне моцнай добра зарганізаванай работніцкай клясы, якая, дзякуючы адноснаму дабрабыту, была мала-рэвалюцыйна і ў высокай меры патрыятычна, што і выявілася ў часе сусьветнай вайны.

Усё гэта мела той вынік, што імпэрыя Вільгельма II задаваляла і імпанавала люднасьці розных сацыяльных слаёў: юнкерскае абшарніцтва панавала ў ёй, прамысловая і гандлёвая буржуазія чула сябе добра пад юнкерскай апекай, сялянства мела добры збыт сваіх с.-гасп. прадуктаў і атрымлівала па таннай цане патрэбныя прамысловыя вырабы; нават работніцкія арганізацыі, ня гледзячы на рэвалюцыйныя фразы, хутчэй прыспасабляліся да існуючага ладу, чым да зваленьня яго.

Але ўвесь гэты дабрабыт існаваў толькі дзякуючы збройнай сіле, аружнаму захвату ўсё новых і новых рынкаў збыту, што абавязкова павінна было выклікаць аружныя конфлікты з другімі магутнымі дзяржавамі і ўрэшце прывясьці да сусьветнай бойні. Нямеччына распачала вайну, якая закончылася вялізарнай катастрофай і зваленьнем манархіі.

Утварылася Нямецкая рэспубліка, якая прымушана была расплачвацца за грахі старога ладу. Буржуазія аказалася нуздольнай справіцца з пастаўленымі перад ёю заданьнямі: даць мір, адбудаваць край і абяцаныя пралетарыяту і дробна-мяшчанству вялікія сацыяльныя рэформы. На Нямеччыну пасыпаліся новыя няшчасьці: эканамічная разруха, голад, чужацкая окупацыя, нацыянальнае паніжэньне.

Усе гэтае прычыняецца да таго, што сярод шырокіх слаёў нямецкага народу даваенная манархія Вільгельма прадстаўляецца, як адзіны выхад з сучаснага палажэньня, як ідэал магутнасьці, славы, дабрабыту, амаль што шчасьця. Ідэолёгія аджыўшай фэодальна-юнкерскай клясы знаходзіць послух сярод розных слаёў нямецкага народу, асабліва дробна-мяшчанства і інтэлігэнцыі, пераважна студэнцтва. Такім чынам выступае новае зьявішча, нямецкі фашызм у форме збройных контр-рэвалюцыйных дружынаў.

Што фашызм нямецкі ня зможа разьвязаць пастаўленых перад ім пытаньняў, аб гэтым шмат гаварыць ня прыходзіцца: імпэрыялізм, ідэя рэваншу проціў Францыі і Польшчы не змогуць папрацвіць міжнароднага палажэньня Нямеччыны, як ня зможа абарона інтарэсаў вялікіх прамыслоўцаў і абшарнікаў паправіць гаспадарчае і фінансавае палажэньне краю, спыніць дарагоўлю, спэкуляцыю, а ўвядзеньне 10 гадзіннага дня працы ня зьменшыць безрабоцьця і не палепшыць палажэньня работнікаў.

Адзіны выхад—гэта пераход улацы ў рукі працоўных, але ён зможа адбыцца толькі шляхам рэвалюцыі і цяжкай барацьбы з рэакцыяй да якое нямецкі пратарыят павінен добра падгатавацца, каб выйсьці пераможцам і не наразіцца на паражэньне.

**Кумельган,**

# Чаму у нас няма тэатру?

У той час як ува ўсходняй (Радавай) Беларусі ёсьць у Менску добра наладжаны беларускі тэатр, які ўсьпешна працуе і добра разьвіваецца як з рэпэртуарнага боку, гэтак і з мастацкага, у нас у Вільні дагэтуль ня ўдалося, ня гледзячы на істнаваўшыя драматычны Гурток, драматычную Майстроўню ды інш. „драматычныя“ ўстановы, змайстраваць больш-менш зноснага тэатру, які даваў-бы спэктаклі пэрыядычна. Што гэта рэч магчымая,—аб гэтым сьведчаць тыя рэдкія ўдачныя з мастацкага боку спэктаклі, якія прыходзіцца часам бачыць пасьля цэлага раду аматарскай бяздарнасьці. Што гэтакага тэатру няма,—гэта, апрача незалежных ад нас жыцьцёвых абставін палітычнага характару, віна ў значнай меры самога грамадзянства.

Мы яшчэ ня прывыклі глядзець на тэатр, як на неабходную здаваліваючую пэўныя духоўныя патрэбы культурную ўстанову, але глядзім, як на спосаб матарыяльнай падмогі іншым беларускім установам: прытулку, гуртку кабет, школьнай справе ды інш. Гэткім чынам усе тэатральныя выступленьні зарганізаванай *ad hoc* дружыны мерацца той меркай, якую дапасоўваюць да выступленьняў дамарослых „артыстаў“ на цёціных імянінах або на іншым сямейным сьвяце. Няма гэткага бязьлітаснага біча крытыкі, які, як евангельскі Хрыстосавы, выганяўшы з Ерусалімскай сьвятыні гандляроў, выгнаў-бы з беларускай сцэны антымастацкія спробы кавэрканьня драматычных твораў і псаваньня добрага тэатральнага смаку ў публікі. Наша патрыятычнае пачуцьцё расьце і радуе душу, як мы чуем са сцэны родную мову, хаця-бы гэтай мовай карыстаўся тэатральны партач.

Тэатр—гэта не дабрачынны вечар, не лётэрэя-алегры, гэта ня дойная карова для розных апынуўшыхся ў крытычным матарыяльным становішчы ўстаноў, але гэта ёсьць мэта сама для сябе, гэта бяздонная бочка Данаія, у якую трэба бязьмерна ўліваць шмат працы, часу, сіл—духоўных і нават фізычных.

Глянуўшы на гісторыю якога колечы тэатру, мы ўсюды пабачым, што ён зьяўляецца дарагой, люксусовай установай. Спачатку ён ўтрымоўваецца дзякуючы багатай каралеўскай або царскай пядмозе, пазьней яго субсыдыруюць розныя безкаронныя мецэнаты, у больш дэматратычныя часы—дзяржава, а ў народаў, пазбаўленых уласнай дзяржаўнасьці — само грамадзянства. (Прыкл. нядаўна—Чэхі). І бывае, што агульная грамадзкая патуга дае шмат большы рэзультат і з матэрыяльнага і з маральнага боку, чымсь нават шчодрая падачка багатага мэцэната.

Але вярнемся да беларускае тэатральнай справы ў Вільні. Зьяўляецца пытаньне, ці ёсьць у нас артыстычны матарыял, з якім можна было-бы распачаць працу. Сьмела можам сказаць, што ёсьць. Дзе ён? Адны, ня маючы сваей беларускай сцэны, пайшлі працаваць на чужой, іншыя пайшлі кудысьці на службу і марнуюць сілы не па сваей спэцыяльнасьці, а яшчэ іншыя дык і зусім бяз ніякае службы жывуць з дня ў дзень цяжкой доляй безработнага.

А якія да іх адносіны грамадзянства, калі часам зьбярэцца гурток гэтакіх выбітых з сваей каляіны мастакоў і задумае наладзіць спэктакль? З імі таргуюцца за залю, бяруць плату за сьвятло, бяруць працэнты на карысьць нейкай установы і г. п., быццам ідзе справа з нейкім гандлёвым прадпрыемствам. І гэтакія адносіны выклікаюць таксама непажаданую рэакцыю: мастакі ня думаюць аб працяжнай, пэрыядычнай працы, але каб толькі вытаргаваць для сябе якнайлепейшыя умовы, каб захапіць у кішэнь як мага найболей грошай—і разыйсьціся ізноў у розныя бакі. Для іх тэатр таксама... дойная карова.

І яшчэ ёсьць адна прычына, якая дае адказ на загаловак гэтай стацьці: няма арганізатара. Няма рукі, якая патрапіла-бы згуртаваць гэты распылены ўсюды прыгодны для сцэны людзкі матар'ял, ажывіць яго сваей энэргіяй і пакіраваць сваей воляй. Гэтую нястачу павінна запоўніць грамада. Хай людзі, якім справа нашага тэатру ляжыць на сэрцы, заснуюць таварыства, якое ня толькі па назове сваей будзе „драматычным“, але ўзапраўды будзе мець на мэце скрануць тэатральную справу з мёртвага пункту, няхай прыцягнуць да працы вучнёўскую моладзь, ахвотна адклікаючуюся на мастацкія справы і, карыстаючыся хаця-бы той самай сцэнай, якая пабудавана ў залі беларускай гімназіі, могуць даваць пэрыядычна спэктаклі, здаваліваючы тэатральны голад нашай публікі і ўзгадоваючы маладое мастацкае пакаленьне для сцэны, як у свой час у Менску рабіла гэта Т—ва Драмы і Камэдыі.

**Б З.**

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Пасол Міхальскі, б. міністар фінансаў, выйшаў з складу фінансавай рады з прычыны прыняцьця праз Сойм уставы аб валёрызацыі падаткаў. Таксама ходзяць чуткі аб выступленьні з фінансавай рады пястоўскага пасла Быркі, які не згаджаецца з фінансавай праграмай мін. Кухарскага.

---

Фінансавая Рада ўхваліла праект мін. фінансаў Кухарскага аб закладзінах Эмісыйнага Банку і прадставіла на разгляд Рады Міністраў, якая вызначыла асобную камісію ў складзе, як дасьціпна піша „Robotnik“ міністра „без даты“ Навадворскага, міністра „без партфэля“ Корфантага і міністра „без зямельнай рэформы“ Осецкага, якая разгледзіць праект да ўнясеньня яго ў Сойм.

---

У Клюбе пястоўцаў усё больш расьце незадаваленьне палітыкай сваіх павадыроў; опозыцыяй кіруе пасол Брыль.

---

Цантральны Выканаўчы Камітэт P.P.S. адбыў паседжаньне разам з Соймавай фракцыяй, і на якім прынята рэзалюцыя, што P.P.S. распачне вострую опозыцыю ў краі і парлямэнце пад лёзунгам зваленьня сучаснага ўраду.

---

Газэты паведамляюць, што хутка будуць выпушчаны польскія злотыя, якія выдрукаваны ў францускіх друкарнях.

---

У Кракаве адбылася ўрачыстая акадэмія ў памяць ахвяраў 6 лістапада, зарганізаваная праз Работніцкую Раду. Сабраўшыяся горача віталі паслоў Марка, Баброўскага і Станьчыка, якіх выбралі ганаровымі старшынямі. У прамовах падчыркнута віна сучаснага ўраду ў Кракаўскіх выпадках.

---

Тарыфны камітэт Дзяржаўнай Чыгуначнай Рады ухваліў з 1-га студзеня 1924 г. правясьці валёрызацыю чыгуначных тарыфаў на падставе залатога франка прыблізна ў перадваеннай высокасьці.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Распачаліся абрады нямецкага парляманту. Новы канцлер Маркс у сваім экспозэ сьцьвердзіў, што палажэньне Нямеччыны амаль безнадзейнае; унутраная і заграніччная палітыка новага ўраду ня будзе розьніцца ад палітыкі папярэдняга. Урад дамагаецца надзвычайных паўнамоцтваў, якія былі дадзены ўраду Штрэзэмана. Дыскусія адложана.

---

Сацыял-дэмакратычная фракцыя парлямэнту выказваецца проціў надзвычайных паўнамоцтваў для ўраду; у гэткім выпадку парлямант ня будзе мець патрэбных 2/3 большасьці і магчыма, што ён будзе распушчаны.

---

Дзяржаўная Рада прыняла большасьцю 2/3 галасоў уставу аб надзвычайных паўнамоцтвах для ўраду. Проціў уставы галасавалі прадстаўнікі Саксоніі, Браўшвэйгу і Надрэйнскіх правінцыяў. Ад галасаваньня ўстрымаліся Тюрынгія і Баварыя.

---

У Дрэздэне адбываецца надзвычайны зьезд сацыялістаў Саксоніі. Зьезд прыняў рэзалюцыю, выражаючую недаверые бэрлінскаму ўраду партыі і сацыял-дэмакратычнай фракцыі нямецкага парляманту.

---

Кангрэс надрэйнскай сацыял-дэмакратычнай партыі выказаўся проціў аддзяленьня Надрэніі ад Нямецкай Рэспублікі.

## С. С. Р. Р.

У Маскве 1-га гэтага сьнежня распачалася канфэрэнцыя прадстаўнікоў народных камісарыятаў асьветы ўсіх рэспублік, уваходзячых у склад С. С. Р. Р.

### ІТАЛІЯ.

У Італіі з прычыны вялізарных дажджоў вада прарвала запруду ў штучным возеры Глена; напор вады быў вялікі, што ў даліне зруйнаваны ўсе вёскі і згінула шмат людзей. Таксама вада прарвала запруду на рацэ Тоцы, заліваючы даліну Фармацо.

### АНГЛІЯ.

Выбарная кампанія прыймае вялікае напружаньне. Дайшло нават у некаторых выбарных акругах да непарадкаў. Некаторыя кансэрватыўныя кандыдаты былі нават пабіты, чаго ў Англіі ніколі ня бывала. У Лёндане таксама дойшло да забурэньняў ў работніцкіх кварталах.

### Сярод украінцаў.

У лістападзе адбыўся ў Філядэльфіі зьезд украінскіх арганізацыяў у Злучаных Штатах. Прыняты рэзалюцыі аб незалежнасьці Украіны.

---

Як паведамляе „Gazeta Lwowska“, украінская сацыял-дэмакратычная партыя мае замер пашырыць сваю дзейнасьць на Валынь, а таксама выдаваць у хуткім часе штодзенную народную папулярную часопісь.

## З Польскага Сойму.

Соймавае паседжаньне 4 лістапада распачалося ад дыскусыі над уставай, якая дае права ўраду павялічваць пасрэдныя падаткі (акцызы), якія пераважна плацяць шырокія слаі спажыўцаў, іначай кажучы працоўная люднасьць. Проціў гэтага выступалі прадстаўнікі апазыцыйных клюбаў; Діаманд (P.P.S.), Савойца (Wyzw,) і Ланцуцкі (Камун.), ставячы прапазыцыю, каб уставу адкінуць не разглядаючы. Прапазыцыя адкінута.

Пасьля разглядалася устава аб эмэрытурах (пэнсыях) для міністраў. Пасол Чапінскі (P.P.S.) унёс прапазыцыю: „Сойм, ня маючы даверыя да сучаснага ўраду, адкідае праект прадстаўленай уставы“. Матывуючы сваю прапазыцыю пас. Чапінскі зазвачыў, што ўрад хутчэй стараецца дастаць для сябе, калі выйдзе ў адстаўкі, пэнсыі ў той час, калі ў краі пануе голад і нэндза. А тым часам усе міністры людзі ня бедныя, наадварот вельмі багатыя, як Корфанты — павадыр горна-шлёнскіх капіталістаў, на якім дасюль ляжыць закід у скрытым забойстве двух чалавек і які зьяўляецца патронам польска-жыдоўскіх спэкулянтаў, ці Кухарскі, які мае ўласныя фабрыкі, газэту, збагаціўся ў часе вайны і пасьля вайны, а Польшчу давёў да нябывалага фінансавага краху.

Прапазыцыя Чапінскага адкінута.

Далей разглядалася прапазыцыя прасьветнай камісіі аб патрэбах беларускай школы, аб адкрыцьці беларускай вучыцельскай сэмінарыі і апецы над беларускімі культурна-прасьветнымі установамі, якую рэфэраваў пас. **Тарашкевіч.** Правіцовая большасьць, каб пахаваць справу, запрапанавала адаслаць прапазыцыю да буджэтнай камісіі, каб высьніць яе з фінансавага боку, што й прынята большасьцю 173 галасоў праціў 135.

Гэта выклікала вялікае абурэньне сярод беларускіх і украінскіх паслоў; пачалося біцьцё ў пюльпіты і крыкі: „Хочаце нашых лясоў, але не даеце нам асьветы!“ і г. д.

## З газэт.

### Жыды аб паразуменьні з „лявіцай“.

У „Змаганьні“ была зроблена засьцярога адносна да паразуменьня між польскай „лявіцай“ і „нацыянальнымі меншасьцямі“: у нас пісалася, што, калі польская дэмакратыя хоча запраўды ўзяць „новы курс“, дык павінна пайсьці па новай дарозе *да лёгічнага канца.*

Жыдоўскі пасол Грюнбаўм у газэце „Nasz Przegląd“ вельмі сумляваецца, каб „лявіца“ зрабіла гэта ў адносінах да жыдоў. З прычыны заявы пасла Тугута („Wyzwolenie“), што „спаўненьне ўсіх справядлівых жыдоўскіх дамаганьняў было-бы скокам на чацьверты этаж“, што „на чацьверты этаж можна ўвайсьці толькі па ступенях, значыць этажамі“ і што „трэба лічыцца з настроямі масаў“, — жыдоўскі пасол адзначае, што ў Польшчы ніхто не змагаецца з антысэміцкімі настроямі масаў, і піша ў „N. Prz.“:

„Што-ж, можна гаварыць аб этапах, але толькі тады, калі маем ясна вызначаную мэту, да якое яны вядуць. Бяз гэткае мэты кожын этап сам у сабе зьяўляецца мэтай. Дый якія могуць існаваць этапы, прыкладам, у справе роўнапраўнасьці жыдоў, скасаваньня агранічэньняў іх — старых расейскіх і новых? Адно агранічэньне будзе скасавана, а рэшта астанецца? Роўнаправнасьць можа быць дадзена толькі зразу. А як агранічэньне правоў зьяўляецца аднэй з формаў змаганьня з нашым нацыянальным рухам, дык аднáчасна павінна адбыцца прызнаньне жыдоўскае нацыянальнасьці, бо інакш роўнапраўнасьці ня будзе.

„Гэта выдаецца п. Тугуту скокам на чацьверты этаж, якога ён так баіцца, і гэта-ж рашае ня толькі аб магчымасьці паразуменьня з намі, але і аб перавазе антысэміцкае „правіцы“, якая і першы крок на ўсходах, што вядуць на чацьверты этаж, лічыць нацыянальнай здрадай, сьмяртным скокам“.

Выступленьне гэтае дужа цікавае і характэрнае: яно паказывае, што паразуменьне польскае „лявіцы“ з „нацыянальнымі меншасьцямі“—справа ня так лёгкая, як мо' каму здаецца!

## З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

### ХРОНІКА.

**Вечарына.** Гурток Беларускіх Кабет у нядзелю 9-га гэтага лістапада ў залі Віленскай Беларускай Гімназіі ладзіць вечарыну на карысьць беларускага прытулку. Пасол кс. А. Станкевіч прачытае лекцыю; пасьля будзе пастаўлена пьеса „Зьбянтэжаны Саўка“ і канцэртны аддзел. Пачатак а 5 гадз. вечара.

**Лекцыя.** Стараньнем Беларускага Студэнцкага Саюзу ў суботу, 8 сьнежня адбудзецца лекцыя кс. д-ра Язэпа Рэшаця на тэму: „Візантыйская цывілізацыя і яе ўплыў на іншыя народы“ ў памешканьні Беларускага Грамадзянскага Сабраньня, (Віленская 12). Пачатак а 4 гадз. Уваход бясплатны.

**Зацьверджаньне канфіскаты.** Камісар ураду г. Вільні паведаміў Сэкрэтар'ят Беларускага Пасольскага Клюбу, што наложаны праз яго арышт на брашуру пад загал. „Працэс 45 беларусаў у Беластоку“, зацьверджаны пастановай Акружнага Суду ў Вільні 26 лістапада г. г.

**Арышт чатырох вучняў Літоўскай гімназіі.** Каля Тарнаполя знайшлі цела забітага польскага афіцэра Антоновіча. Па падазрэньню заарыштавалі чатырох гімназістаў літоўцаў: Скабаса, Андруконіса, Міляса і яшчэ аднаго, але калі выясьнілася, што яны няпрычасны да забойства і што на іх данесена па злобе, іх выпусьцілі.

Ня гледзячы на гэта, віленская газэта „Słowo“ піша, што „забойцамі аказаліся вучні літоўскае гімназіі“.

**Рэзалюцыя Акр. Каміс. Проф. Саюзаў у Вільні.** 26 лістапада адбылася конфэрэнцыя проф. саюзаў г. Вільні, на якой абгаварывалася справа арыштаў работніцкіх дзеячоў у зьвязку з генаральнай забастоўкай 5 лістапада. Прынята рэзалюцыя, якую падаём, паводле справаздачы „Robotnika“.

„Дзеля таго, што цэлы рад таварышаў з Акружнай Камісіі, паасобных саюзаў і гарадзкіх работнікаў арыштаваны і сядзяць трэці тыдзень у Лукіскім вастрозе, ад імя ўсей работніцкай клясы г. Вільні, выражаем найэнэргічнейшы пратэст і жадаем безварунковага звальненьня усіх арыштаваных таварышоў, лічачы, што кіраўнікі пралетарскіх масаў могуць заўсёды, калі будзе патрэба, сьмела стаць перад судом і адказаць на закіды.

Канфэрэнцыя ўказвае, што калі адказныя чыньнікі ня выпаўняць нашага жаданьня, могуць надужыць цярплівасьць работніцкіх масаў, дзеля чаго адказнасьць за ўсялякія пасьледствы і спакой г. Вільні спадае на гэтыя чыньнікі, якія прычыніліся да гэтых арыштаў.

Аднáчасна канфэрэнцыя заклікае ўсе саюзы да зьбіраньня складак з мэтай дапамогі сем'ям арыштаваных“.

## Весткі з вёскі.

### З Несьвіжу.

У нашым павеце робяцца такія справы, што проста ня хочацца жыць. Чалавек ня мае спакою ні ў день ні ўночы. Паліцыя, якое ў нас, як зораў на небе, робіць павольныя вобыскі па вёсках, шукаючы аружжа. Зьяўляюцца ў вёску ўночы і пачынаючы з аднаго канца даходзяць да другога, трасучы ўсе хатнія манаткі, пераварачываючы ўсе ўверх дном. І хоць-бы знайшлі якую благую дзядоўскую стрэльбу, то можа пакінулі-б у супакою беларускія кнігі і газэты. А то замест стрэльбаў і куляметаў забіраюць усялякую беларускую літэратуру і газэты, забіраюць нават школьныя падручнікі. Народ гэтым у нас так напалоханы, што баіцца нават у хаце трымаць і нажы хлеб рэзаць, і гэта ведама—аружжа: можна адрэзаць хлеба, а потым і пад дзевятае рэбра пусьціць. Я ўжо не гавару аб тым, што ў нашай весцы хацелі залажыць бібліатэчку, дзеля чаго выпісалі з Вільні кнігі накладною платаю, але выкупіць іх з пошты пабаяліся—ўсё роўна забяруць трасучы; прападуць і грошы, прападуць і кніжкі, а мо' яшчэ і з татавай хатай пазнаёмяць. Такія павальныя вобыскі былі ў Дольнай Гарадзеі, у Горнай Гарадзеі, у Крутым берагу, у Астроўках, а паадзінокіх і не пералічым. Прыкладам, спаткаюць чалавека, ў якога на носе барадаўка—бальшавік значыць, вобыск; засьмяяўся чалавек ня там, дзе трэба—камуніст—вобыск. Аднаму чалавеку паліцыя так дапякла гэтымі бальшавікамі, што ён, каб пазнаёміцца з імі і пазнаць, што гэта за людзі, аж тры разы парываўся да іх, але на граніцы яго кожны раз лавілі і прыводзілі да пастарунку, а потым пушчалі да хаты. Цяпер жа, каб ён ня меў на думцы падобнае мэты, заставілі што дня ходзіць на пастарунак мальдавацца.

Ходзіць, мальдуецца і чакае, калі ўжо ён стане запраўдным бальшавіком і пазбавіцца гэтык мальдункаў,

**Ікс.**

## Допісы.

### Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

### Беларусы і Галічане.

Беларускі рух ў Амэрыцы дастае самае шчырае падтрыманьне галіцкіх украінцаў, аб чым у пачатку лістапада адбылася нарада паміж прадстаўніцтвам Галіцкай Украіны д-рамі О. Назаруком і С. Грыневецкім з аднаго боку і Я. Варонкай і А. Змагаром, як прадстаўніцтвам Беларусі з другога боку. Д-р О. Назарук толькі што вярнуўся з вялікай падарожы па Канадзе, дзе, як відаць з яго спатканьняў, так сама заварушыліся беларусы.

4 лістапада г. г. у Чыкага адбылося вялікае сьвяткаваньня 5-ых угодах здабыцьця украінцамі Львова, на якім меў прамову на тэму „Беларусь і Украіна“—беларускі прадстаўнік Я. Варонка, горача вітаны лічным украінскім грамадзянствам.

## Усячына.

### Канфіската „юбілейнай канфіскаты“.

У папярэднім нумары нашай газэты мі пісалі аб тым, што рэдакцыя газэты „Napród“ выпусьціла юбілейны № з прычыны 25-ай канфіскаты, але і гэты № быў сканфіскаваны. Вось што піша аб гэтым тая-ж газэта „Napród“.

„Канфіската гэтая зьяўляецца асаблівасьцяй, якой яшчэ ня было, бо сканфіскаваны незадрукаваная белая папера, бо апрача загалоўка ў юбілейным нумары нічога ня было. „Зьмест“ яго былі дзьве белыя пустыя старонкі. Зумысна выпушчаны былі карткі белай паперы, каб унікнуць канфіскаты. Але нават чыстую паперу пан пракурор сканфіскаваў. Вось ілюстрацыя вольнасьці прэсы пад урадам Хьепы“.

## Рынкавыя цэны у Вільні

### 6 сьнежня 1923 г.

| | |
|---|---|
| Жыта пуд. | 1.300.000 |
| Ячмень пуд. | 1.100.000 |
| Бульба „ | 175.000 |
| Яйкі дзесятак | 400.000 |
| Малако літар | 170.000 |
| Масла фунт | 980.000 |
| Сланіна „ | 450.000 |
| Сала „ | 550.000 |
| Мыла чус. | 160.000 |
| Соль белая „ | 1.000.000 |
| Цукер куск. фунт | 230.000 |
| Карасіна „ | 80.000 |
| Хлеб белы „ | 68.000 |
| „ чорны „ | 42.000 |
| Гарох белы | 1.300.000 |
| Мяса 1 фунт | 120.000 |

### Ахвяры на прэсовы фонд.

Ад грам. в. Д—чы—3.415.000 п. м., ад гр. Кузьміна—10.000.000 п. м., ад гр. Юрэнчыка—5 даляраў, ад гр. Кондратовіча з Парыжу—15 фран. франкаў.

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цэнтр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.